● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

23 чэрвеня 1998 г. аўторак, № 128 (23479)



# ЗВЯЗДА

## ЛІПЕНЬСКІЯ ПЕНСІІ: ЛІЧБЫ ВЯДОМЫЯ

Мы ўжо паведамлялі, што ў сувязі з ростам заробкаў рабочых і служачых у краіне, у ліпені будуць пералічаны пенсіі. Учора сталі вядомы канкрэтныя лічбы. Так, у сярэднім працоўныя пенсіі ўзрастуць на 17,5 працэнта (да 1 млн. 820 тыс. рублёў).

Памер максімальнай працоўнай пенсіі (пры стажы 45 гадоў у мужчын або 40 гадоў у жанчын і каэфіцыенце заробку не менш як 1,3) павялічыцца на 18 працэнтаў і складзе 2 млн. 190,9 тыс. рублёў. Мінімальныя пенсіі ўзрастуць ўсяго на 8,1 працэнта — гэта значыць, што ў ліпені «мінімальшчыкі» атрымаюць па 900 тыс. Апроч таго, як стала вядома, у наступным месяцы плануецца правесці індэксацыю на 14,3 працэнта так званых «сацыяльных» пенсій.

Паводле папярэдніх разлікаў, дадатковыя выдаткі на выплату ў ліпені працоўных пенсій набліжаюцца да 675 млрд. рублёў. Нягледзячы на гэта, як запэўнілі карэспандэнта газеты ў Міністэрстве сацыяльнай абароны, зрываў графіку выплаты пенсій быць не павінна.

**Сяргей ГРЫБ.**

## БЕСПРАЦОЎНЫХ ЗНОЎ СТАЛА МЕНШ. АЛЕ...

Як паведамілі нам у Дзяржаўным камітэце па занятасці, за мінулы май колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі зменшылася яшчэ прыкладна на 4 тысячы чалавек. Такім чынам, на 1 чэрвеня ўсяго на ўліку ў службах занятасці знаходзілася 109 тысяч грамадзян, што адпавядае 1,95 працэнта працаздольнага насельніцтва краіны.

Аднак менавіта зараз ёсць усе падставы меркаваць, што некалькі наступных месяцаў для службаў занятасці акажуцца не самымі «спакойнымі» за апошнія паўтара года. Тлумачэнне гэтаму простае: у бліжэйшы час на рынку працы краіны павінны з'явіцца выпускнікі, прычым, да прыкладу, сёлета выпускнікоў школ будзе значна больш, чым летась. Між тым, статыстычныя даныя сведчаць, што найбольш вялікія праблемы з працаўладкаваннем мае якраз моладзь.

**Сяргей ГРЫБ.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК БЕЛАРУСІ ДАЗВОЛІЎ...

Нацыянальны банк Беларусі зрабіў чарговы крок да лібералізацыі рынку наяўнай валюты. Сваёй тэлеграмай, якая паступіла ў камерцыйныя банкі раніцай 22 чэрвеня, ён дазволіў устанаўліваць курс продажу наяўнай замежнай валюты насельніцтву на 10 (але не больш) працэнтаў вышэй за курс пакупкі.

Тэлеграма пацягнула за сабой рост кацировак амерыканскага долара ў абменных пунктах да 50.000 рублёў пры пакупцы і 55.000 рублёў пры продажы. Гэта дазволіла скарацiць разрыў паміж сярэднімі банкаўскімі і «цэнявымі» кацiроўкамі з 16,9 да 11,4 працэнта. Далейшае павышэнне банкаўскіх кацировак стрымлівающа курсам 30-працэнтнага абавязковага продажу валюты камерцыйным банкамі Нацыянальнаму банку (банкі не будуць купляць валюту ў насельніцтва пра стратнаму для сябе курсу).

Тым часам на «чорным» рынку долар у панядзелак таксама пайшоў у рост. Курсы пакупкі і продажу выраслі на 1000 пунктаў і склалі, адпаведна, 58.000 і 59.000 рублёў.

**Дзмітрый ВЛАСАЎ, БелаПАН.**





# МЫ З «БЕРАГА БЕЛЫХ БУСЛОЎ»

Тэатр фальклору «Бераг белых буслоў» створаны ў верасні мінулага года, і займаюцца ў ім дзеці, што жывуць у мінскім мікраёне «Малінаўка».

Арганізатарам новага тэатра стаў вядомы беларускі аматар народнага мастацтва Мікола Котаў, які больш за трыццаць гадоў плённа працуе ў галіне фальклору і беларускага народнага танца. Тры калектывы, якімі ён кіраваў, атрымалі званне народных, адзін — узорнага. Касцяк калектыву складаюць дзеці з сям'і Капусціных — шэсць чалавек. Меншая, чатырохгадовая Машачка, — сапраўдная зорачка. Мікалай Конанавіч умее разгледзець іскру Божую і дапамагае ёй разгарэцца. Так, Арцём Золатаў лічыў сябе прыхільнікам класічнага мастацтва, а цяпер з задавальненнем займаецца ў фальклорным тэатры.

Пачынаўся тэатр як дзіцячы. А цяпер у ім ёсць і сталыя людзі, аматары народнага мастацтва — Валянціна Кудзі і Аркадзь Рыгоравіч Саламацін, якому ўжо 70. Музычны кіраўнік тэатра Аляксандр Крамко, загадчыца пастановачнай часткі — Ніна Мароз.

Тэатр «Бераг белых буслоў» апякуе асацыяцыя творчай інтэлігенцыі «Духоўнае адраджэнне», якую ўзначальвае паэт Алесь Пісарык. Падтрымліваюць «буслянят» і беларусы Амерыкі, якія дапамглі набыць інструменты, народныя строі для артыстаў.

За гэты час падрыхтаваны тры праграмы: «Калядачкі: бліны-ладачкі», «Вялікдзень», «Буслы». Калектыў выступаў перад ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, у школах, на гарадскіх святах.

**Вераніка МІХЕЙКА.**

**На здымках: Аркадзь Рыгоравіч САЛАМАЦІН і яго маленькі вучань Дзіма ПІСАРЫК; жартоўны танец «Рыбакі» выконваюць Пеця і Андрэй КАПУСЦІНЫ.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ СУСТРЭЎСЯ З БАРЫСАМ БЕРАЗОЎСКІМ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 22 чэрвеня прыняў у сваёй рабочай рэзідэнцыі выканаўчага сакратара СНД Барыса Беразоўскага.

У ходзе праведзенай гутаркі Барыс Беразоўскі азнаёміў прэзідэнта Беларусі з ходам перагавораў па ўрэгуляванню канфліктаў на Каўказе, а таксама расказаў аб рэканструкцыі асноўных дэпартаментаў СНД.

Гаворачы аб выніках сваіх перагавораў з кіраўнікамі Абхазіі, Грузіі, Арменіі і Азербайджана, выканаўчы сакратар адзначыў, што ліквідацыя ачагоў напружанасці ў любых пунктах СНД з'яўляецца агульнай задачай для ўсіх краін—членаў Садружнасці.

Аляксандр Лукашэнка падзяліўся сваёй думкай адносна праблем, якія абмяркоўваліся.

**БЕЛТА.**

## ЗАЯВА Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь

Як ужо афіцыйна паведамлялася, 21 красавіка гэтага года Урад Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб капітальнай рэканструкцыі ўрадавага комплексу «Дразды», які пабудаваны, у асноўным, у 1945- 1948 гг. і патрабуе істотнай замены сістэм камунікацый, водаправода, каналізацыі і іншых камунальных збудаванняў.

На момант прыняцця гэтага рашэння ў пасёлку пражывалі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь і кіраўнікі шэрагу дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Мінску, — 22 дыпламаты з сем'ямі.

Падпарадкоўваючыся рашэнню ўрада, тры вышэйшыя службовыя асобы рэспублікі пераехалі са сваіх рэзідэнцый на час рамонту. Аднак паслы, асабліва паслы краін Еўрапейскага саюза, адмовіліся падпарадкавацца гэтаму рашэнню, матывуючы гэта тым, што ім патрабуецца больш працяглы час для ад'езду, чым два тыдні, указаныя ў пастанове ўрада. Такі час ім быў прадастаўлены.

Для перасялення паслоў з комплексу «Дразды», дзе яны былі размешчаны на часовай аснове, быў спецыяльна пабудаваны дом палепшанай канструкцыі на вуліцы Чырвонаармейскай з кватэрамі 200—400 кв. метраў, а таксама прапанаваны дачныя комплексы «Крылова», «Сцяпянка».

Аднак паслы краін Еўрапейскага саюза пасля заканчэння двух месяцаў з часу прыняцця пастановы ўрада звярнуліся з нотамі ў МЗС Рэспублікі Беларусь, заяўляючы аб сваім нежаданні выканаць рашэнне ўрада Рэспублікі Беларусь і аб адмове пакідаць рэзідэнцыі. Гэтым яны парушылі Венскую канвенцыю, якая абавязвае дыпламатычных прадстаўнікоў паважаць законы краіны знаходжання, падпарадкоўвацца рашэнням яе ўрада і паважаць норавы, культуру і звычаі народаў гэтых краін.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*СТЫХІЯ*

Тамара ЦЯРЭШЧАНКА, начальнік Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзяржкамгідрамета Рэспублікі Беларусі:

## «У СВЕЦЕ АБВАСТРЫЛАСЯ ПАЎТАРАЛЬНАСЦЬ НЕСПРЫЯЛЬНЫХ ПРЫРОДНЫХ З'ЯЎ»

**Ураган, які пранёсся ў канцы мінулага тыдня над тэрыторыяй Мазырскага раёна, зноў прымусіў людзей успомніць нядобрым словам «нябесную-канцылярыю»: шмат бедаў прынесціь апошнім часам свавольства прыроды. Дасталося за кампанію і сіноптыкам: састарэлая жанчына, плачучы і прыціскаючы да грудзей абразок, жалілася з экрана тэлевізара: хоць бы папярэдзілі. Літаральна ў той жа дзень тэму стыхіі і яе наступстваў працягнулі рэпартажы з Масквы, дзе ўраган таксама наламаў шмат дроў у прамым і пераносным сэнсе. Некалькі чалавек там загінулі, мноства атрымалі цялесныя пашкоджанні, вялікі ўрон быў нанесены гарадской гаспадарцы і асабістай маёмасці грамадзян. На гэтым фоне ўжо другі раз за апошні час прагучалі словы мэра Лужкова: маўляў, метэаслужбу трэба рэфарміраваць, бо яна не спраўляецца з ускладзенымі на яе абавязкамі — папярэджваць аб магчымым разгуле стыхіі. Менавіта з гэтага мы і пачалі нашу гутарку з начальнікам Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Дзяржкамгідрамета Рэспублікі Беларусь Тамарай ЦЯРЭШЧАНКА.**

**— Тамара Рыгораўна, вы, як спецыяліст, зразумела, будзеце супраць такой думкі, але на бытавым узроўні часта і ў нас, асабліва апошнім часам, даводзіцца чуць прыкладна тое ж, што сказаў нядаўна Лужкоў...**

— Калі вы маеце на ўвазе, ці папярэджваем мы аб несрыяльных умовах надвор'я, дык папярэджваем. Калі чакаюцца неспрыяльныя ўмовы надвор'я і асабліва тыя, што могуць прывесці да надзвычайных сітуацый; шмат клопатаў прыносяць так званыя канвектыўныя з'явы, на якія багаты чэрвень бягучага года — шквальны вецер, лівневы дождж, град, моцная навальніца, мы даём гэтую інфармацыю органам дзяржаўнага кіравання, арганізацыям, органам грамадзянскай абароны, Міністэрству па надзвычайных сітуацыях, абавязкова папярэджваем праз друк, радыё, тэлебачанне насельніцтва.

**— Але гэтая інфармацыя даецца загадзя і, як вядома, не заўсёды спраўджваецца. Вось каб яе перадавалі, напрыклад, незадоўга да стыхіі па тэлебачанню, асабліва па радыё нейкімі спецыяльнымі сігналамі...**

— Магчыма, вы маеце рацыю — ёсць сэнс распрацаваць такую сістэму папярэджвання. Але, як правіла, канвектыўныя з'явы носяць лакальны характар, г. зн. назіраюцца ў асобных раёнах і нават асобных населеных пунктах.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ВАДА ПРАРВАЛАСЯ НА ПОЙМУ

Прайшоўшыя на працягу мінулага тыдня дажджы абумовілі пад'ём узроўню вады на большасці рэк Беларусі.

Найперш, як паведамілі ў аддзеле гідралогіі і гідрапрагнозу Дзяржкамгідрамета, атрымала працяг гісторыя з «вялікай вадой» на рацэ Убарць, што ў Лельчыцкім раёне. Нагадаем: там выпала амаль паўтарамесячная норма ападкаў, і рака атрымала добрае «сілкаванне». У выніку рэшт, прагнозы гідролагаў спраўдзіліся — Убарць выйшла на пойму. Як стала вядома, вада нанесла ўрон найперш сельскагаспадарчым угоддзям, аднак магчыма павелічэнне ўзроўню вады ў рацэ. Зазначым: на Убарці пакуль зафіксаваны найбольш значны пад'ём вады. Сітуацыя на іншых рэках больш спакойная, але ёсць небяспека выхаду вады на пойму на рэках Бярэзіна, Гарынь, Пціч. Разам з тым на асобных рэках працягвае захоўвацца зацішша, напрыклад, зусім спакойна на Дняпры ў раёне Магілёва і Оршы.

У бліжэйшы час па прагнозах спецыялістаў пад'ём вады ў большасці рэк будзе працягвацца за кошт выпаўшых ападкаў. Не выключана, што нябёсы «падкінуць» вільгаці яшчэ не адзін раз, хаця, магчыма, ужо і не так моцна.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Стыхія не шкадуе і жывёлу

Прыкладна каля пяці гадзін раніцы на пашы калгаса «Трабы» Іўеўскага раёна ў выніку навальніцы адбыўся абрыў лініі электраперадач. Так атрымалася, што правады лініі ўпалі прама на жывёлу. У выніку токам былі паражоны 11 галоў буйной рагатай жывёлы. На шчасце, абышлося без іншых ахвяр.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## 36,6°

### СПРОБЫ ПРЫМУСІЦЬ ДЗЯЦЕЙ ЕСЦІ «ПРАЗ СІЛУ» ДА ДАБРА НЕ ДАВОДЗЯЦЬ

Паводле апублікаваных даных міжнароднага даследавання, больш за 65 працэнтаў італьянцаў ва ўзросце ад 30 да 60 гадоў маюць залішнюю вагу. Такой вялікай колькасці таўстуноў няма ні ў адной іншай краіне Еўропы. У адрозненне ад італьянскіх жанчын, большасць якіх імкнецца захаваць стройнасць, прадстаўнікоў «моцнага» полу, абцяжараных лішнімі кілаграмамі, налічваецца больш як 73 працэнты.

Асаблівую занепакоенасць італьянскіх медыкаў выклікае тое, што кожнае другое дзіця мае лішнюю вагу. Урачы рэкамендуюць жанчынам адмовіцца ад стэрэатыпа «клапатлівай матулі», аб гаспадарлівасці якой мяркуюць па ступені ўкормленасці дзяцей.

### НЕ МУЖЧЫНСКАЯ ГЭТА СПРАВА...

Маладым бацькам нельга вельмі ўжо адказна ставіцца да догляду немаўлят, сцвярджаюць італьянскія медыкі.

Нявопытных бацькоў, якія занадта сур'ёзна падыходзяць да гэтай праблемы, нярэдка пачынаюць праследаваць апасенні, што яны робяць усё не так, як рэкамендуюць дапаможнікі. З гэтай прычыны ў абодвух часам развіваецца моцны псіхоз. Але ў мужчын ён выяўляецца больш востра і небяспечна: можа набыць форму моцнай дэпрэсіі ці стаць прычынай павышанай агрэсіўнасці і схільнасці да нематываваных успышак насілля.

Італьянскія псіхіятры звязваюць гэта з тым, што ў сучасным грамадстве паступова сціраецца розніца ў функцыях маладых бацькоў. Раней на маці, як правіла, ускладаліся абавязкі па догляду за дзіцем, а на бацьку — па яго выхаванню. Цяпер жа ў многіх італьянскіх сем'ях, дзе абодва бацькі працуюць, кармленнем, зменай падгузнікаў, купаннем дзіцяці ў аднолькавай ступені займаюцца і бацька, і маці. Гэты ў цэлым станоўчы сацыяльны працэс усё часцей пазбаўляе мужчын традыцыйнай ролі «бацькоў сямейства» і дрэнна адбіваецца на іх псіхічнай раўнавазе.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Арына КАЗАКОВА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.37 | 21.45 | 17.08 |
| Віцебск – | 4.18 | 21.44 | 17.26 |
| Магілёў – | 4.26 | 21.34 | 17.08 |
| Гомель – | 4.33 | 21.22 | 16.49 |
| Гродна – | 4.54 | 21.59 | 17.05 |
| Брэст – | 5.04 | 21.50 | 16.46 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 24 чэрвеня**

*З 3.47 — 29-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Блізнятаў.*

### ІМЯНІНЫ

**ПР. Васілія, Іаана, Аляксандры, Антаніны**

**К. Ванды, Зянона**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 14—16, Мінску і Магілёве — 15—17, Гомелі — 16—18, Брэсце — 17—19 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 24-га — на большай частцы тэрыторыі, 25-га — на ўсходзе рэспублікі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы 5—10, 25-га па паўночнаму ўсходу — 3—8, удзень 24-га — 13—18, 25-га — 15—20 градусаў вышэй нуля.

**У мінскім Доме дружбы з замежнымі краінамі ў гэтыя дні праходзіць фотавыстава**

## «ЧАЛАВЕК МАЕ ПРАВА...»

**звяздоўца Анатоля Клешчука, прымеркаваная да 50-годдзя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Хоць галоўныя падзеі з нагоды незвычайнага юбілею будуць адзначацца ў снежні, частку фотавыставы вырашана было паказаць у час прэзентацыі кнігі па правах чалавека для дзяцей. Фотавыстава адлюстроўвае шырокі спектр беларускага жыцця часам сумнаватымі, але найбольш цікавымі і забаўнымі сюжэтамі, так, як гэта ўмее ўбачыць і паказаць фатограф і журналіст Анатоль Кляшчук. Яшчэ на працягу тыдня знаўцы фатаграфіі могуць наведваць знакаміты дом па вуліцы Захарава.**

**Чытачам жа мы прапануем некалькі здымкаў з выставы «Чалавек мае права...»**





# ЗВЫЧАЙНАЯ АМЕРЫКА

## V. Іншы стандарт

Злучаныя Штаты як незалежная краіна існуюць крыху больш як дзвесце гадоў. У параўнанні з гісторыяй асноўных дзяржаў Старога кантынента гэты тэрмін выглядае мізэрным. Аднак за два стагоддзі амерыканцы ў сваіх звычках, традыцыях, правілах паводзінаў паспелі значна адысці ад еўрапейцаў. Прычым тое, што ты знаходзішся не ў Еўропе, у Амерыцы адчуваеш на кожным кроку, сутыкаючыся з мноствам дробязяў, на якія ў еўрапейскіх краінах проста не звяртаеш увагі.

Выбіраючы тавары ў амерыканскім супермаркеце, вельмі цяжка дакладна падлічыць, якую суму з цябе затрабуюць на касе. Лічбы, якія значацца на цэнніку тавару, — не канчатковы кошт. Касір дабавіць да гэтай сумы яшчэ падатак на продаж. Гэты падатак адрозніваецца ў залежнасці ад штата, у якім размешчаны магазін, віду тавару і г.д. У выніку за пакупкі вам давядзецца заплаціць на 7—10 працэнтаў болей, чым было ўказана на цэнніку. Лічыцца, што гэта вельмі дапамагае мясцовым уладам папаўняць свой бюджэт. Амерыканцы да такой сістэмы прывыклі і стараюцца рабіць буйныя пакупкі ў тых штатах, дзе гэты падатак найменш або яго ўвогуле няма. Еўрапейцаў такі парадак раздражняе. І сапраўды: чаму нельга ўказваць на тавары іх канчатковую цану, якая б уключала ўсе падаткі і не прымушала пакупніка займацца дадатковымі арыфметычнымі вылічэннямі?

Цяжкасці з разлікамі могуць узнікнуць у еўрапейца і ў амерыканскай сферы паслуг — у рэстаране, бары, пры аплаце паслуг таксіста, гардэробшчыка, пакаёўкі ў атэлі. Паводле прынятых у амерыканцаў традыцый, афіцыянту ў рэстаране вы павінны даць «на чай» 15 працэнтаў ад сумы, указанай у рахунку. Прычым гэта правіла даволі жорсткае: калі «забудзеце» — афіцыянт сам пра гэта нагадае, а калі разлічваецеся не наяўнымі, а крэдытнай карткай — з карткі разам з сумай, указанай у рахунку, будуць зняты і «чаявыя».

Ад 10 да 15 працэнтаў сумы, указанай у рахунку, трэба набаўляць і бармену, да 10 працэнтаў — таксісту. Ад 50 цэнтаў да 1 долара прынята даваць гардэробшчыку, каля 50 цэнтаў — служачаму на аўтастаянцы. Прычым усе работнікі сферы паслуг патрабуюць «чаявыя» ледзь не ў абавязковым парадку, паколькі іх асноўны заработак вельмі нізкі («чаявыя» работадаўцамі маюцца на ўвазе), а з «чаявых» даводзіцца плаціць падаткі дзяржаве.

Сеўшы ў Амерыцы за руль аўтамабіля, еўрапейскі вадзіцель раптам выявіць, што зусім не арыентуецца ў тутэйшых дарожных знаках. Яны абсалютна іншыя, чым ва ўсім астатнім свеце: амерыканцы чамусьці паклалі ў іх аснову не ўмоўныя знакі-піктаграмы, як у Еўропе, а надпісы. У выніку дарожны знак на абочыне хайвэя — гэта аранжавы шчыт, на якім па-англійску напісана, што вадзіцелю, для прыкладу, з крайняга правага рада забаронена паварочваць налева.

Пры гэтым адлегласць амерыканцы вымяраюць у мілях (1 міля — 1,6 кіламетра), а скорасць, адпаведна, у мілях у гадзіну.

Увогуле, у ЗША ўся сістэма вымярэнняў адрозная ад еўрапейскай: замест міліметраў — дзюймы, замест сантыметраў — футы, замест метраў — ярды. Вагу вам вымераюць у фунтах і унцыях; аб'ём вадкасці — у пінтах, квартах і галонах.

З прагнозу надвор'я па тэлебачанню вы можаце даведацца, што тэмпература паветра на вуліцы — 86 градусаў. Каб падлічыць, колькі гэта па шкале Цэльсія, неабходна адняць 32 і падзяліць на 1,8.

А вось час у ЗША вымяраецца па 12-гадзіннай шкале. Калі вам прызначылі сустрэчу на 8 р.т. — значыць мелі на ўвазе 20.00, або 8 вечара.

Еўрапейцаў звычайна загадзя папярэджваюць, каб не бралі з сабой у ЗША ніякіх электрычных прыбораў. І справа не толькі ў тым, што там зусім іншыя электраразеткі — іншае і напружанне ў электрасетцы (110—120 вольт).

Мноства іншых «амерыканскіх» дробязяў падпільноўвае вас на кожным кроку. Заходзячы ў амерыканскі дом, вы з вуліцы трапляеце проста ў гасціную (прыхожыя чамусьці не прадугледжаны).

У шматкватэрных жылых дамах ні разу не давялося бачыць балкон або лоджыю. Знаёмыя амерыканцы ў адказ на адпаведнае пытанне пацiскалі плячыма: маўляў, напэўна, балконы небяспечныя.

У амерыканцаў па-іншаму адчыняюцца вокны, інакш працуе сантэхніка, іншая канструкцыя электравыключальнікаў і мноства іншых рэчаў і прыстасаванняў, без якіх ні дня не абысціся.

Зрэдку ў ЗША робяцца спробы часткова уніфікаваць, напрыклад, сістэму вымярэнняў — перайсці на прынятую ў свеце метрычную сістэму. Але ніякага плёну яны пакуль не прынеслі.

Амерыканцы прывыклі жыць па-свойму і дбайна зберагаюць гэту сваю адметнасць. Напрыклад, адзін з нязменных атрыбутаў любога амерыканскага дома — роўна падстрыжаная зялёная лужайка пад вокнамі. Ідэальны выгляд гэтых газонаў трымаецца зусім не на адных традыцыях і высокай культуры побыту. Мне давялося размаўляць з адным былым суайчыннікам, які паліцыю, што такое выкарыстанне зямельных угоддзяў не вельмі рацыянальнае і паспрабаваў даказаць гэта на практыцы. Вынік: праз некалькі дзён пасля таго, як газон страціў першапачатковы выгляд, эксперыментатар атрымаў ад мясцовых уладаў папярэджанне аб пагрозе штрафу памерам у 500 долараў.

Такі ж штраф чакае і ўладальніка сабакі, які ўздумае выгульваць свайго гадаванца на чужых газонах.

Магчыма, так і павінна прывівацца культура. Асабліва ў краіне, якая штогод прымае сотні тысяч перасяленцаў з іншых куткоў свету, у многіх з якіх свае спецыфічныя ўяўленні пра асяроддзе, у якім можа жыць чалавек.

**Валянцін ЖДАНКО,**

*Вашынгтон—Атланта—Дэ-Мойн—Солт-Лэйк-Сіці—Сент-Луіс—Нью-Йорк.*

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 121—125).*

***Шчыра і сардэчна ўдзячны ўсім арганізацыям, установам, калектывам і многім добрым людзям, якія павіншавалі мяне з 50-годдзем. Дзякую за памяць!***

Вашы добрыя словы ў мой адрас ацэньваю як аванс, які патрэбна дбайна адпрацаваць, а Вашы ацэнкі маёй сціплай працы адношу на рахунак шматлікіх спагадлівых людзей, на якіх мне заўсёды шанцавала ў жыцці і дзякуючы якім я сёе-тое здолеў зрабіць у дзяржаўнай дзейнасці, у грамадскіх і літаратурных справах. Спадзяюся, што, нягледзячы на адлегласць, нашы беларускія повязі будуць мацавацца дзеля карысці і дабра нашай роднай Беларусі, вышэй за гонар служыць якой у мяне нічога не было і няма.

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Румыніі Анатоль БУТЭВІЧ, ён жа ў пісьменніцкім саюзе — Максім ВАЛОШКА.**

**На жаль, наша грамадства яшчэ далёкае да ідэальнага. Таму праблема правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь застаецца даволі актуальнай. Сёння яна атрымае асаблівае гучанне: раніцай у Доме ўрада збяруцца члены абедзвюх палат Нацыянальнага сходу, каб правесці па гэтай тэме парламенцкія слуханні. Трэба чакаць, што слуханні стануць не проста чарговым мерапрыемствам, прымеркаваным да 50-гадовага юбілею прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які шырока адзначаецца ў нашай краіне, а паспрыяюць рэальнаму вырашэнню праблем з правамі і свабодамі асобы, якія ўзнікаюць у грамадстве. «Звязда», у сваю чаргу, таксама прапануе сёння чытачам два погляды на згаданую тэму.**

# Правы чалавека: *погляд у гісторыю*

Азнаямленне з гісторыяй фарміравання інстытутаў правоў чалавека, якія сталі неад'емнай прыметай цывілізаванага грамадства, свабоды і недатыкальнасці асобы, права на судовую абарону, прызнанне асобы вінаватай толькі па прыгавору суда, права на ўдзел у вырашэнні дзяржаўных спраў, свабоду слова, сумлення паказвае паступовы працэс расшырэння правоў чалавека і іх гарантый.

«Першапраходцам» на гэтым шляху можна лічыць Англію. Яшчэ ва ўмовах феадалізму, на этапе станаўлення манархіі з саслоўным прадстаўніцтвам, які праходзіў ва ўмовах палітычнага канфлікту паміж каралеўскай уладай і пануючымі саслоўямі, якія патрабавалі абмежавання самавольства ўладаў, у 1215 годзе была прынята **Вялікая хартыя вольнасцяў.** Гэты прававы дакумент залажыў асновы, якія стварылі прадпасылкі для далейшага ўсталявання свабоды і панавання закона ў жыцці грамадства.

Далейшым крокам у галіне ўзмацнення гарантый правоў чалавека і абмежавання самавольства ўладаў з'явілася прыняцце ў 1679 годзе **Акта аб лепшым забеспячэнні свабоды падданага і аб папярэджанні зняволенняў за морамі.** Гэты дакумент замацаваў адну з найбольш значных працэсуальных гарантый недатыкальнасці асобы, якая затым трывала ўвайшла не толькі ў практыку Англіі, але і многіх замежных дзяржаў.

У 1689 годзе быў прыняты **Біль аб правах**. Ён быў накіраваны на ўзрастанне ролі парламента, без ведама якога нельга прыпыняць дзеянне законаў, збіраць падаткі і зборы «на карысць ці распараджэнне кароны», набіраць і ўтрымліваць пастаянную армію ў мірны час. У 1791 годзе ў ЗША уступіў у сілу **амерыканскі Біль аб правах**, які змяшчае дзесяць першых паправак да Канстытуцыі ЗША 1787 года. Біль аб правах зафіксаваў асноўныя правы чалавека. Характэрна, што некаторыя з іх сфармуляваны як забароны федэральным уладам выдаваць законы, якія абмяжоўваюць прыродныя правы чалавека.

У гэты ж перыяд у Еўропе адбылася Вялікая французская рэвалюцыя, значэнне якой выйшла за межы адной дзяржавы і аказала ўздзеянне на змяненне грамадскай сітуацыі ў многіх краінах.Французская рэвалюцыя была не толькі трыумфам, але і трагедыяй народа. Аднак яна пакінула значны прававы дакумент — **Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна** 1789 года. Змест дэкларацыі адлюстраваў гуманістычныя ідэі эпохі Асветы — свабоду, роўнасць, народны суверэнітэт, грамадскі дагавор, аўтарытэт закона, правы чалавека.

Кароткая характарыстыка юрыдычных актаў па правах чалавека, створаных у розныя эпохі і ў розных краінах, паказвае гістарычныя карані тых нормаў, інстытутаў і прынцыпаў, якія былі ўспрыняты міжнародным правам для абароны правоў чалавека.

Трэба адзначыць, што ў дарэвалюцыйнай Расіі не было дэмакратычных традыцый прызнання прыярытэту і значнасці правоў і свабод. Гэта знайшло адлюстраванне ў поглядах палітычных лідэраў таго часу. Ліберальна-дэмакратычныя каштоўнасці былі не ўласцівы грамадскай свядомасці народа Расіі. Пасля рэвалюцыі 1917 года правы і свабоды, абвешчаныя **Дэкларацыяй правоў працоўнага і эксплуатуемага народа**, а затым Канстытуцыяй РСФСР 1918 года, насілі выключна класавы характар, абмяжоўваючы асобныя слаі грамадства ў палітычных і грамадзянскіх правах.

Канстытуцыі СССР 1936 і 1977 гадоў абвяшчалі грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды чалавека. Аднак, трэба адзначыць неадпаведнасць паміж дэкларуемымі і рэалізуемымі правамі і свабодамі грамадзян. Пераважала патэрналісцкая ідэалогія ўзаемаадносінаў дзяржавы і грамадзяніна, згодна з якой дзяржава «даравала» правы і свабоды грамадзяніну і вызначала яго жыццёвыя стандарты.

10 снежня 1948 года Генеральная Асамблея ААН прыняла **Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека**. З таго часу гэта дата штогод адзначаецца ва ўсім свеце як Дзень правоў чалавека.

Прыняцце Усеагульнай дэкларацыі — дакумента, які ўпершыню замацаваў пералік як грамадзянскіх і палітычных, так і эканамічных, сацыяльных і культурных правоў і свабод асобы, стала важным этапам у развіцці міжнародных адносінаў. Усеагульная дэкларацыя ААН была прынята ў выглядзе рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН, і таму, згодна са Статутам ААН, яна носіць толькі рэкамендацыйны характар. Аднак пры ацэнцы юрыдычнай сілы яе палажэнняў трэба ўлічваць, што ў міжнародным праве разам з дагаворам аб нарматворчым працэсе значную ролю адыгрывае звычай, які фармулюецца ў выніку міжнароднай практыкі дзяржаў і паступова прызнаецца імі ў якасці абавязковай прававой нормы. Падобным чынам цяпер правы і свабоды, абвешчаныя ва Усеагульнай дэкларацыі, разглядаюцца ў якасці юрыдычна абавязковых звычайных ці дагаворных нормаў.

У хуткім часе пасля прыняцця Усеагульнай дэкларацыі Генеральная Асамблея змяніла сваё першапачатковае рашэнне і рэкамендавала падрыхтаваць замест аднаго два Пакты аб правах чалавека. Гэта было выклікана рознымі падыходамі дзяржаў да юрыдычнай абавязковасці комплексу розных правоў. У 1966 годзе Генеральная Асамблея прыняла два дагаворы — Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і Пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах.

Пытанне прадастаўлення некаторым асобам права накіроўваць скаргі на парушэнне іх грамадзянскіх і палітычных правоў у міжнародны орган атрымаў рэгламентацыю ў асобным дагаворы — у Факультатыўным пратаколе да Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Камітэт па правах чалавека, які стварылі ў адпаведнасці з Пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, разглядае як скаргі некаторых асоб, так і міждзяржаўныя скаргі і даклады краін аб прынятых імі мерах па ажыццяўленню правоў, прызнаваемых у Пакце.

15 снежня 1989 года Асамблея прыняла другі Факультатыўны пратакол да Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, накіраваны на адмену смяротнай кары. Усе гэтыя пяць дакументаў і ўтвараюць Міжнародны Біль аб правах чалавека.

Акрамя Міжнароднага Біля былі прыняты і іншыя дакументы, у тым ліку Дэкларацыя правоў дзіцяці (1959 г.), Кодэкс паводзінаў службовых асоб па падтрыманню правапарадку (1979 г.), Дэкларацыя аб ліквідацыі ўсіх формаў нецярпімасці і дыскрымінацыі (1981 г.), Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных і прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання (1984 г.), Дэкларацыі аб праве на развіццё (1986 г.). Важнае значэнне маюць таксама Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і наступныя дакументы так званага Хельсінкскага працэсу, рэгіянальныя пагадненні.

26 мая 1995 года дзяржавы — удзельніцы СНД прынялі Канвенцыю Садружнасці Незалежных Дзяржаў аб правах і асноўных свабодах чалавека. У гэтай Канвенцыі замацаваны практычна ўвесь пералік як грамадзянскіх і палітычных, так і сацыяльна-эканамічных правоў, пералічаных ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і ў Пактах аб правах чалавека. Састаўной часткай Канвенцыі з'яўляецца Палажэнне аб Камісіі па правах чалавека СНД, зацверджанае Саветам кіраўнікоў дзяржаў СНД у верасні 1993 года. Камісія разглядае міждзяржаўныя паведамленні аб парушэннях правоў чалавека, а таксама індывідуальныя і калектыўныя звароты па гэтых пытаннях любых асоб і няўрадавых арганізацый. Пасля іх абмеркавання яна прымае заключэнне і рэкамендацыі.

У Палажэнні аб Камісіі па правах чалавека СНД не закранаюцца многія пытанні, якія адносяцца да яе кампетэнцыі і дзейнасці. Відаць, практыка яе работы з непазбежнасцю прывядзе да неабходнасці іх вырашэння. У гэтай сувязі можа ўзнікнуць і пытанне аб стварэнні Суда СНД па правах чалавека.

Многія палажэнні Канвенцыі СНД аб правах і асноўных свабодах чалавека сфармуляваны ў агульных рысах і не канкрэтызаваны. На аснове гэтых палажэнняў дзяржавы — члены СНД распрацоўваюць і прымаюць канкрэтныя пагадненні па важнейшых пытаннях, якія закранаюць лёсы многіх краін і народаў, што ўзніклі ў выніку распаду СССР.

Гарантыяй правоў і свабод чалавека ў любой краіне з'яўляецца Канстытуцыя. Зразумела, у поўнай меры гэта мае дачыненне і да нашай дзяржавы. У пачатку 90-х гадоў у Беларусі адбыліся значныя змены ў палітычнай, эканамічнай, ідэалагічнай сферах. Галоўнае з іх заключалася ў тым, што Беларусь уступіла ў новую эпоху свайго развіцця, стаўшы незалежнай, суверэннай дзяржавай. Усё гэта, бясспрэчна, патрабавала адлюстравання ў Асноўным законе краіны.

Актыўная работа над праектам новай Канстытуцыі працягвалася каля трох гадоў, і ў выніку 15 сакавіка 1994 года быў прыняты Асноўны закон Рэспублікі Беларусь.

Аднак, нягледзячы на працяглы тэрмін падрыхтоўкі і абмеркавання, Канстытуцыя 1994 года, як паказала жыццё, мела шэраг істотных недахопаў. У прыватнасці, у ёй не была вырашана праблема размежавання ўладных паўнамоцтваў паміж прэзідэнтам краіны, Кабінетам Міністраў і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, што паслужыла асновай узнікнення вострага процістаяння розных галін улады.

Кампетэнцыя Вярхоўнага Савета тлумачылася так шырока, што ён мог прыняць законы па любому, без абмежаванняў пытанню. Пры гэтым паўнамоцтвы прэзідэнта, якія прадастаўляліся яму Канстытуцыяй, былі яшчэ больш звужаны пасля прыняцця Закона аб Вярхоўным Савеце ужо пры абраным прэзідэнце. Па прычыне гэтага некаторыя ўказы прэзідэнта ўступалі ў супярэчнасці і з Канстытуцыяй, і з устарэлым заканадаўствам, якое дзейнічала.

Ва ўмовах недастаткова выразнага размежавання ўладных паўнамоцтваў і ўстарэлага заканадаўства, а таксама палітызаванага парламента не магла быць эфектыўнай работа Канстытуцыйнага суда, закліканага ажыццяўляць кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў у дзяржаве.

У той жа час складаныя праблемы, якія стаялі перад Рэспублікай Беларусь ва ўсіх сферах жыцця, у тым ліку задачы пабудовы прававой дзяржавы, патрабавалі павышэння ролі прэзідэнта, пашырэння кола яго паўнамоцтваў.

Да 1996 года стала відавочна, што зняць наяўныя супярэчнасці можна толькі шляхам унясення змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю 1994 года. Была распрацавана новая рэдакцыя Канстытуцыі, якая і была прынята на рэспубліканскім рэферэндуме 1996 года.

Такім чынам, беларускі народ зрабіў свой выбар. Калі гэта — не найвышэйшае праяўленне дэмакратыі, то што ж тады ўвогуле называецца дэмакратыяй?

**Яўген МАТУСЕВІЧ,**
**дырэктар Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

# Мая свабода канчаецца там, дзе пачынаецца свабода іншага чалавека

***У лютым гэтага года ў Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай секцыі Міжнароднага таварыства правоў чалавека. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі Брэста і Мінска, Гомеля і Гродна, Пінска і Лунінца, іншых гарадоў краіны. Нядаўна Міністэрства юстыцыі зарэгістравала гэтую новую грамадскую арганізацыю. Старшынёй праўлення секцыі выбраны прафесар Іван Іванавіч Котляр. Цікава тое, што праўленне рэспубліканскай арганізацыі выбрала цэнтрам сваёй дыслакацыі не Мінск, а Брэст. Чаму? З гэтага пытання мы і пачалі гутарку з І. І. КОТЛЯРАМ.***

— Тут адыграў сваю ролю такі немалаважны факт: менавіта ў Брэсце яшчэ амаль пяць гадоў таму пачала дзейнічаць група правоў чалавека, якая крыху пазней, у 1994 годзе, была прынята ў Міжнароднае таварыства. Мяркую, было ўлічана і тое, што ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце ў свой час была праведзена першая рэспубліканская канферэнцыя па правах чалавека. І, нарэшце, нававыбраны старшыня (у дадзеным выпадку я маю на ўвазе сваю сціплую асобу) жыве і працуе таксама ў Брэсце. Усе гэтыя фактары і падштурхнулі праўленне да такога рашэння.

**— Іван Іванавіч, у Беларусі існуе шмат праваабарончых арганізацый — Беларускі Хельсінкскі камітэт, Ліга правоў чалавека і іншыя. У чым Вы бачыце неабходнасць стварэння яшчэ адной? Чаму б не згуртаваць грамадскія сілы на дзейнасці ўжо існуючых?**

— Я адчуваю нейкі падтэкст у гэтым пытанні. Маўляў, ці не кіраваўся я асабістымі амбіцыямі пры стварэнні Беларускай секцыі Міжнароднага таварыства правоў чалавека? Адкажу адразу: не і яшчэ раз не. Я спрабаваў супрацоўнічаць з некаторымі праваабарончымі арганізацыямі, але вымушаны быў адмовіцца ад гэтага па прынцыповых меркаваннях.

Па-першае, я супраць таго, каб любая праваабарончая арганізацыя канцэнтравала сваю ўвагу толькі, скажам так, на палітычных правах, будавала сваю дзейнасць выключна з пазіцый (прашу прабачыць за таўталогію) апазіцыі. Так званыя «гучныя справы» нічога, акрамя шкоды, ахвярам не прыносяць, яны прыносяць палітычныя і матэрыяльныя дывідэнды ініцыятарам праваабарончых баталій. За многія дзесяцігоддзі работы над праблемай правоў чалавека я прыйшоў да цвёрдага пераканання, што нельга выкарыстоўваць правы чалавека як інструмент палітычнай ці міжпартыйнай барацьбы. Таму ў статуце Беларускай секцыі адлюстравана, што гэта не палітычная арганізацыя, яна не ўдзельнічае ні ў якіх палітычных альбо партыйных блоках, займаецца ўсім комплексам правоў чалавека. Я не хачу сцвярджаць, што ў Беларусі не існуе праблем з захаваннем палітычных правоў, але як вучоны і педагог я аддаю прыярытэт таму, каб агульнымі намаганнямі стварыць у грамадскім і дзяржаўным асяроддзі атмасферу высокай культуры прававога мыслення, выканання міжнародных і нацыянальных стандартаў у сферы правоў чалавека.

Другое. Выкананне гэтай, на мой погляд, важнейшай задачы немагчыма без удзелу дзяржаўных структур. Адсюль і наша тактыка, тактыка, няхай і маленькіх, нягучных, але рэальных крокаў і спраў. Прывяду прыклады. Яшчэ чатыры гады таму, упершыню ў сістэме вышэйшай адукацыі рэспублікі, у Брэсцкім педагагічным інстытуце пачаў працаваць спецкурс па вывучэнню правоў чалавека. Зараз падобныя спецкурсы ў Брэсце выкладаюцца на многіх факультэтах, яны сталі састаўной часткай вучэбнага працэсу. Зазначу: на сённяшні дзень, акрамя Брэсцкага дзяржуніверсітэта, такія спецкурсы выкладаюцца яшчэ ў чатырох ВНУ. Праўда, толькі на юрыдычных факультэтах. А мара і мэта такая, каб ва ўсіх 50 ВНУ краіны правы чалавека вывучаліся. Дык скажыце, калі ласка, ці можна гэтага дабіцца без удзелу дзяржавы, без марудных, руцінных, нябачнай (не мітынгі ж!) работы па напісанню падручнікаў, распрацоўцы методыкі выкладання і вучэбных планаў, фінансавання і г. д.? Канешне, можна крыкнуць: дзяржава не дбае, не дае, душыць, бо баіцца, што людзі будуць ведаць і адстойваць свае правы. Але для грамадскасці больш сэнсу і карысці, калі з інстытутаў (а гэта камандзіры вытворчасці, педагогі, юрысты) прыйдуць граматныя, цывілізаваныя людзі, якія не толькі не дазволяць сабе парушыць правы якога-небудзь чалавека, але і навучаць яго адстойваць сваю годнасць і паважаць годнасць іншых.

Далей. Мы ў Брэсце падключылі да вывучэння правоў чалавека школы, арганізавалі і правялі па гэтай тэме абласную алімпіяду, выязджалі на міжнародныя сустрэчы ў Кіеў, наладзілі некалькі навукова-практычных канферэнцый... Падкрэслю яшчэ раз: без дапамогі дзяржавы і маральнай падтрымкі рэалізаваць усё гэта было б немагчыма. А зараз у пацвярджэнне таго, што наша тактыка і стратэгія на супрацоўніцтва і кампраміс з усімі дзяржаўнымі і грамадскімі суполкамі, а не на канфрантацыю, выбрана, спадзяюся, правільна, працытую палажэнне з Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Яно гучыць так: «Беручы пад увагу, што ўсеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод мае велізарнае значэнне для поўнага выканання гэтых абавязацельстваў, Генеральная Асамблея абвяшчае дадзеную Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы...» Я хачу, каб чытачы ўдумаліся ў такія словы: «усеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод». А як яго, гэтага разумення, дасягнуць, калі не адукацыяй? А яна — справа цяжкая, не заўсёды ўдзячная, не шумная.

**— Я разумею Вашу думку, але ж процістаянне, мітынговыя і нават сілавыя баталіі на глебе захавання правоў чалавека, як сведчаць факты, разгортваюцца менавіта паміж дзяржавай і яе грамадзянамі...**

— Я б сказаў інакш: паміж уладай і грамадзянамі. Бо дзяржаве, а дзяржава гэта і мы з вамі, і мільёны такіх як мы, заўсёды выгадна, з любога пункту гледжання, захаванне і абарона правоў чалавека. Але вось бяда: інтарэсы ўлады, партыі пры ўладзе, правячай эліты не заўсёды супадаюць з неабходнасцю захавання правоў чалавека. Прашу прабачэння, але я прывяду яшчэ адну вельмі важную цытату з прэамбулы Дэкларацыі: «Беручы пад увагу, што неабходна, каб правы чалавека абараняліся ўладай закона ў мэтах забеспячэння таго, каб чалавек у якасці апошняга сродку не выкарыстоўваў паўстанне супраць тыраніі і прыгнёту». Вось чаму ўлада, якая не разумее гэтага, гіне ў віхуры рэвалюцый і паўстанняў. На яе сумленні смерці і кроў тых, хто хацеў аднаго: людзьмі звацца. Заўважце: канстытуцыі амаль усіх краін, нават з таталітарнымі рэжымамі, утрымліваюць раздзелы і палажэнні аб правах чалавека. Але рэальнае жыццё і дэкларуемыя правы, як тыя паралелі, ніколі не перасякаюцца. Нават у краінах, якія лічаць сябе прыкладам у захаванні правоў і свабод чалавека, «вучаць» іншых (бывае, і сілаю зброі) дэмакратыі. Як прыклад можна ўспомніць барацьбу неграў у 60-я гады ў ЗША за свае грамадзянскія правы. Гэта быў самы масавы рух у амерыканскай гісторыі. Асабліва мне імпануе тое, што яго ўдзельнікі падтрымалі тактыку свайго лідэра Марціна Лютэра Кінга — тактыку «ненасільных дзеянняў», бо, я ўпэўнены, дэмакратыі кулаком не вучаць. Шмат пытанняў можа ўзнікнуць і па сённяшняй сітуацыі ў Расіі, дзе правы і свабоды чалавека таксама замацаваны ў Канстытуцыі, але ў той жа час рабочыя гадамі не атрымліваюць зарплаты, дзе падзел на вельмі бедных і вельмі багатых такі яскравы, што я не здзіўлюся, калі гэта прывядзе і ўжо прыводзіць да сацыяльных выбухаў і грамадзянскага непадпарадкавання. У Беларусі тут таксама ёсць праблемы, але іх вастрыня не такая, лічу, выбухованебяспечная, як у нашых суседзяў і партнёраў па Саюзу.

У гэтай сувязі мяне больш непакоіць празмерная бюракратызацыя адносінаў радавога чалавека, з яго канстытуцыйнымі правамі і свабодамі, і ўлады. Маю на ўвазе чыноўніцкае засілле і нашу агульную залежнасць ад яго. Паводле канстытуцыі мы ўсе роўныя перад законам, але па міласці таго ж чыноўніка ў рэальным жыцці ёсць больш роўныя. Бывае, што самае дробнае, але законнае жыццёвае пытанне нельга вырашыць, пакуль чалавек не пройдзе сем кругоў бюракратычнага пекла. Таму, спадзяюся, дзяржава, нашы заканадаўцы, вышэйшая выканаўчая ўлада прыкладуць намаганні, прымуць меры па адказнасці чыноўніка за парушэнне правоў чалавека.

**— Мы гаворым пра правы. І гэта натуральна, бо праблемы тут ёсць. Але ж правоў без абавязкаў не бывае...**

— Так. І найпершы абавязак чалавека — паважаць правы іншых. Ёсць вядомы афарызм Жан-Жака Русо: «Свабода кожнага мае свае межы. Яна канчаецца там, дзе пачынаецца свабода іншага». Без разумення гэтага абавязку кожным чалавекам наша свабода заўсёды будзе пад пагрозай.

**Гутарку вёў Міхаіл МІХАЕВІЧ.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ЗНЕШНЯЙ ПРАЦОЎНАЙ МІГРАЦЫІ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 20 мая 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 мая 1998 года*

Гэты Закон устанаўлівае парадак выезду грамадзян Рэспублікі Беларусь для працаўладкавання за мяжу, прыцягнення замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь і вызначае прававыя нормы абароны працоўных-мігрантаў.

**Артыкул 1. Сфера прымянення Закона**

Дзеянне Закона распаўсюджваецца на органы дзяржаўнага кіравання, суб'екты гаспадарання незалежна ад форм уласнасці, уключаючы асоб, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы (далей — суб'екты гаспадарання), займаюцца накіраваннем грамадзян Рэспублікі Беларусь для аплатнай працоўнай дзейнасці за мяжу, прыцягненнем замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь, на наймальнікаў Рэспублікі Беларусь, якія заключаюць працоўныя дагаворы з працоўнымі-мігрантамі, а таксама на працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў.

Гэты Закон не прымяняецца да замежных грамадзян і асоб без грамадзянства:

а) якія атрымалі статус бежанца або прытулак на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

б) якія хадайнічаюць аб прадастаўленні статусу бежанца або прытулку ў Рэспубліцы Беларусь;

в) якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

г) якія працуюць у дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульскіх установах, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь, прадстаўніцтвах міжнародных арганізацый, замежных фірм, што знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

д) якія працуюць ва ўстановах, створаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь, дзеячаў навукі і культуры;

е) святарнаслужыцеляў, якія займаюцца рэлігійнай дзейнасцю ў афіцыйна зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь рэлігійных арганізацыях;

ж) якія навучаюцца і праходзяць вытворчую практыку ў рамках праграм навучальных устаноў, а таксама працуюць у час канікул;

з) акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь у якасці супрацоўнікаў замежных сродкаў масавай інфармацыі;

і) якія запрашаюцца для чытання курса лекцый і іншай вучэбнай работы ў навучальных установах у якасці лектараў і інструктараў;

к) якія працаўладкоўваюцца ў іншым парадку, вызначаным міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Тэрміны, якія прымяняюцца ў Законе**

Знешняя працоўная міграцыя — добраахвотны выезд на законнай падставе грамадзян, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, за мяжу, а таксама ўезд замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць па-за межамі Рэспублікі Беларусь, на яе тэрыторыю для атрымання аплатнай работы па працоўнаму дагавору (кантракту) (далей — працоўны дагавор);

маятнікавая (прыгранічная) працоўная міграцыя — выезд грамадзян Рэспублікі Беларусь на тэрыторыю сумежнай дзяржавы і ўезд грамадзян сумежнай дзяржавы на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у мэтах атрымання аплатнай работы па працоўнаму дагавору пры ўмове пастаяннага пражывання на тэрыторыі дзяржавы выезду;

працоўны-мігрант — асоба, якая займалася, займаецца або будзе займацца аплатнай працоўнай дзейнасцю ў дзяржаве, грамадзянінам якой яна не з'яўляецца і ў якой пастаянна не пражывае;

прыгранічны працоўны — працоўны-мігрант, які захоўвае сваё звычайнае месцажыхарства ў сумежнай дзяржаве, у якую ён вяртаецца кожны дзень або, па крайняй меры, адзін раз у тыдзень;

дзяржава выезду — дзяржава, на тэрыторыі якой працоўны-мігрант пражывае пастаянна і выязджае для атрымання аплатнай работы ў іншай дзяржаве;

дзяржава працаўладкавання — дзяржава, у якой працоўны-мігрант займаўся, займаецца або будзе займацца аплатнай працоўнай дзейнасцю;

члены сям'і — асоба, якая знаходзіцца ў шлюбе з працоўным-мігрантам, а таксама дзеці, што знаходзяцца на яго ўтрыманні, і іншыя асобы, якія прызнаюцца членамі сям'і ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржавы працаўладкавання.

**Артыкул 3. Органы дзяржаўнага кіравання па пытаннях знешняй працоўнай міграцыі**

Органамі дзяржаўнага кіравання, якія забяспечваюць распрацоўку і рэалізацыю дзяржаўнай палітыкі ў сферы знешняй працоўнай міграцыі, з'яўляюцца Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь, а таксама абласныя і Мінская гарадская міграцыйныя службы пры камітэтах (упраўленнях) па працы і занятасці насельніцтва абласных і Мінскага гарадскога выканкомаў (далей — тэрытарыяльныя органы па міграцыі).

Па даручэнню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь пытанні знешняй працоўнай міграцыі разглядаюцца ў межах іх кампетэнцыі і іншымі органамі дзяржаўнага кіравання.

**Артыкул 4. Парадак накіравання і прыцягнення рабочай сілы**

Ажыццяўленне суб'ектамі гаспадарання Рэспублікі Беларусь дзейнасці, звязанай з працаўладкаваннем грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой, а таксама прыцягненнем замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь, праводзіцца на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) у парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Ажыццяўленне ўказаных відаў дзейнасці без адпаведнага дазволу (ліцэнзіі) не дапускаецца.

За выдачу дазволу (ліцэнзіі) на ажыццяўленне дзейнасці, прадугледжанай часткай першай дадзенага артыкула, суб'екты гаспадарання ўносяць у рэспубліканскі бюджэт плату ў памеры, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Парадак выезду і ўезду працоўных-мігрантаў**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія выязджаюць за мяжу для атрымання аплатнай работы, павінны мець працоўны дагавор, заключаны з наймальнікам, і візу дзяржавы працаўладкавання, выдадзеную яе дыпламатычным прадстаўніцтвам або консульскай установай.

Парадак прыцягнення працоўных-мігрантаў, узроставыя і іншыя патрабаванні да іх устанаўліваюцца заканадаўствам дзяржавы працаўладкавання, міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

Працоўныя-мігранты ўязджаюць для працаўладкавання ў Рэспубліку Беларусь і вяртаюцца ў дзяржаву выезду па візе, выдадзенай ва ўстаноўленым парадку дыпламатычным прадстаўніцтвам або консульскай установай Рэспублікі Беларусь за мяжой.

Віза можа быць прадоўжана ў выпадках:

а) прадаўжэння тэрміну працоўнага дагавора з працоўным-мігрантам;

б) прадстаўлення дакументаў, якія пацвярджаюць уважлівасць прычыны яе невыкарыстання (хвароба, стыхійнае бедства і інш.) і захаванне рабочага месца згодна з заключаным з наймальнікам працоўным дагаворам.

Працоўныя-мігранты, якія прыбылі ў Рэспубліку Беларусь, падлягаюць ва ўстаноўленым парадку рэгістрацыі ў органах унутраных спраў па месцы іх часовага пражывання.

Па сканчэнні тэрміну дзеяння працоўнага дагавора працоўныя-мігранты і члены іх сем'яў абавязаны пакінуць дзяржаву працаўладкавання.

Працоўныя-мігранты і члены іх сем'яў у выпадку неабходнасці могуць у любы час выехаць з Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 6. Уезд і знаходжанне членаў сем'яў працоўных-мігрантаў**

Члены сям'і працоўнага-мігранта могуць уехаць у Рэспубліку Беларусь разам з працоўным-мігрантам або далучыцца да яго ў перыяд яго аплатнай працоўнай дзейнасці, калі гэта прадугледжана ўмовамі заключанага з наймальнікам працоўнага дагавора.

**Артыкул 7. Групавыя перамяшчэнні працоўных-мігрантаў**

Групавыя перамяшчэнні працоўных-мігрантаў ажыццяўляюцца на падставе заключаных Рэспублікай Беларусь міжнародных дагавораў, якімі вызначаюцца парадак уезду, выезду і знаходжання груп працоўных-мігрантаў, умовы іх працы і яе аплаты, сацыяльнае забеспячэнне.

**Артыкул 8. Маятнікавая (прыгранічная) працоўная міграцыя**

Дзяржава садзейнічае абмену рабочай сілай паміж прыгранічнымі тэрыторыямі Рэспублікі Беларусь і суседніх дзяржаў у інтарэсах развіцця эканамічных, навукова-тэхнічных, культурна-асветных сувязей. Кантроль за прыгранічнай працоўнай міграцыяй ажыццяўляецца тэрытарыяльнымі органамі па міграцыі Рэспублікі Беларусь.

Парадак прыцягнення прыгранічных працоўных на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, іх прававое становішча рэгулююцца міжнароднымі дагаворамі, заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Квоты (межы) для працоўных-мігрантаў**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з улікам дзяржаўных інтарэсаў і сітуацыі на ўнутраным рынку працы і прыярытэтнасці права грамадзян Рэспублікі Беларусь на заняцце вакантных месцаў устанаўлівае квоты (межы) на прыцягненне замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь.

**Артыкул 10. Працоўны дагавор**

Працоўныя адносіны працоўнага-мігранта з наймальнікам афармляюцца працоўным дагаворам, які заключаецца ў пісьмовай форме на роднай або зразумелай для працоўнага-мігранта мове і павінен змяшчаць даныя:

аб тэрміну яго дзеяння, характары і месцы аплатнай работы, умовах працы і яе аплаце, у тым ліку за работу ў начны, звышурочны час, выходныя і святочныя дні;

аб памеры прэмій, надбавак і ўтрыманнях з заработнай платы;

аб правах, абавязках, адказнасці бакоў, парадку і ўмовах скасавання або прадаўжэння працоўнага дагавора;

аб арганізацыі пераезду, харчавання, пражывання, медыцынскага абслугоўвання працоўнага-мігранта і членаў яго сям'і;

аб парадку і ўмовах сацыяльнага страхавання працоўнага-мігранта;

аб парадку пакрыцця шкоды, прычыненай здароўю працоўнага-мігранта ў працэсе яго аплатнай працоўнай дзейнасці, і аб іншых сацыяльных гарантыях.

Наймальнік Рэспублікі Беларусь абавязаны зарэгістраваць заключаны працоўны дагавор у тэрытарыяльным органе па міграцыі.

Адзін экземпляр працоўнага дагавора ўручаецца працоўнаму-мігранту да яго выезду ў дзяржаву працаўладкавання.

**Артыкул 11. Прынцып роўнасці**

Пры заключэнні працоўных дагавораў на працаўладкаванне грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой і прыцягненне ў Рэспубліку Беларусь замежнай рабочай сілы павінен захоўвацца прынцып роўнасці правоў працоўных-мігрантаў з грамадзянамі дзяржавы працаўладкавання ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржавы працаўладкавання.

Не дапускаецца наём працоўных-мігрантаў на ўмовах, якія зневажаюць чалавечую годнасць, прычыняюць шкоду здароўю.

За грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, якія выехалі за мяжу для аплатнай працоўнай дзейнасці па працоўнаму дагавору, захоўваюцца правы і абавязкі, прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 12. Забеспячэнне занятасці і сацыяльных правоў працоўнага-мігранта**

Дзяржава прымае меры па забеспячэнню занятасці і сацыяльных правоў працоўнага-мігранта.

Калі працоўны дагавор з працоўным-мігрантам скасаваны ў сувязі з ліквідацыяй, рэарганізацыяй або скарачэннем колькасці, штату работнікаў прадпрыемства, арганізацыі, установы, адпаведныя органы дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь прымаюць меры па ўцягненню працоўнага-мігранта, наколькі гэта магчыма, з яго згоды ў іншыя раўнацэнныя працоўныя адносіны на тэрмін дзеяння заключанага працоўнага дагавора.

На працоўнага-мігранта распаўсюджваюцца льготы і кампенсацыі, устаноўленыя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь для работнікаў — грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія вызваляюцца па ўказаных падставах, калі іншае не прадугледжана працоўным дагаворам.

Пры парушэнні ўмоў працоўнага дагавора наймальнікам Рэспублікі Беларусь органы дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь аказваюць садзейнічанне працоўнаму-мігранту ў атрыманні належных яму льгот і кампенсацый, датэрміновым скасаванні працоўнага дагавора і вяртанні ў краіну выезду за кошт наймальніка.

У выпадку парушэння наймальнікам умоў працоўнага дагавора з працоўным-мігрантам, які з'яўляецца грамадзянінам Рэспублікі Беларусь, што выехаў для аплатнай працоўнай дзейнасці за мяжу, працоўны-мігрант мае права звярнуцца ў дыпламатычнае прадстаўніцтва або консульскую ўстанову Рэспублікі Беларусь, якія абавязаны прыняць меры па абароне яго правоў, у тым ліку на атрыманне належных ільгот і кампенсацый, скасаванню працоўнага дагавора і вяртанню працоўнага-мігранта (і членаў яго сям'і) у Рэспубліку Беларусь за кошт наймальніка.

**Артыкул 13. Асаблівасці ўезду ў Рэспубліку Беларусь для працоўнай дзейнасці асобных катэгорый работнікаў**

Дзяржава стымулюе ўезд у Рэспубліку Беларусь замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія інвесціруюць эканоміку краіны, ствараюць на яе тэрыторыі замежныя і сумесныя прадпрыемствы, дабрачынныя фонды, а таксама ажыццяўляюць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў на ўзроўні сучасных патрабаванняў.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія з'яўляюцца заснавальнікамі, кіраўнікамі, кансультантамі, інструктарамі прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі і дабрачынных фондаў, зарэгістраваных у якасці юрыдычных асоб Рэспублікі Беларусь, прыцягваюцца для заняцця працоўнай дзейнасцю без атрымання такімі прадпрыемствамі і фондамі дазволу (ліцэнзіі) на прыцягненне замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь.

Уезд указаных катэгорый замежных спецыялістаў узгадняецца з Камітэтам па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 14. Датэрміновае вяртанне працоўнага-мігранта ў дзяржаву выезду**

У выпадку датэрміновага скасавання працоўнага дагавора па віне працоўнага-мігранта ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь расходы на яго вяртанне ў дзяржаву выезду аплачваюцца за кошт яго асабістых сродкаў. Пры датэрміновым скасаванні працоўнага дагавора па віне наймальніка расходы на вяртанне працоўнага-мігранта ў дзяржаву выезду нясе наймальнік.

У выпадках немагчымасці пакрыцця расходаў на адпраўку працоўнага-мігранта з Рэспублікі Беларусь у дзяржаву выезду за кошт яго асабістых сродкаў або сродкаў наймальніка фінансаванне гэтых расходаў можа ажыццяўляцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**Артыкул 15. Сацыяльнае забеспячэнне**

У выпадку часовай непрацаздольнасці і хваробы, цяжарнасці і родаў, нараджэння дзіцяці працоўныя-мігранты, якія працуюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь па працоўнаму дагавору, карыстаюцца льготамі, дапамогамі ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржавы працаўладкавання.

Пытанні пенсіённага забеспячэння працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў рэгулююцца двухбаковымі міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 16. Пакрыццё шкоды, прычыненай здароўю працоўнага-мігранта**

Пакрыццё шкоды, прычыненай здароўю працоўнага-мігранта з прычыны калецтва ці іншага пашкоджання здароўя, звязанага з выкананнем працоўных абавязкаў за мяжой, а таксама з прычыны наступлення смерці пацярпеўшага, праводзіцца ў адпаведнасці з працоўным дагаворам.

Органы дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь або па іх даручэнню іншыя органы аказваюць садзейнічанне ў пераводзе сум, што належаць за прычыненую шкоду здароўю, па месцы жыхарства працоўнага-мігранта, які займаецца аплатнай працоўнай дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь.

У выпадку смерці работніка наймальнік забяспечвае перавозку цела і асабістых рэчаў памёршага на тэрыторыю дзяржавы выезду і нясе ўсе звязаныя з гэтым затраты. Наймальнік інфармуе аб гэтым дыпламатычнае прадстаўніцтва або консульскую ўстанову дзяржавы выезду з прадстаўленнем матэрыялаў па факту смерці работніка.

Не дапускаецца высылка працоўнага-мігранта ў дзяржаву выезду пры калецтве або хваробе, звязаных з выкананнем працоўных абавязкаў у Рэспубліцы Беларусь, акрамя тых выпадкаў, калі пацярпеўшы грамадзянін жадае гэтага сам або гэта прадугледжваецца міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 17. Перавод грашовых сродкаў**

Працоўныя-мігранты, якія займаюцца аплатнай працоўнай дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, могуць ажыццяўляць перавод зробленых сродкаў і зберажэнняў на тэрыторыю дзяржавы выезду ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 18. Падаткаабкладанне працоўных-мігрантаў**

Падаткаабкладанне працоўных-мігрантаў, якія займаюцца аплатнай працоўнай дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Выключэнне двайнога падаткаабкладання заробкаў працоўных-мігрантаў рэгулюецца міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 19. Увоз і вываз працоўнымі-мігрантамі асабістай маёмасці, інструментаў і абсталявання**

Працоўныя-мігранты і члены іх сем'яў, якія пражываюць разам з імі, могуць часова ўвозіць у Рэспубліку Беларусь на працягу тэрміну дзеяння кантракта тавары, прызначаныя для іх асабістага карыстання, уключаючы тавары для першапачатковага абзавядзення, інструменты і абсталяванне, неабходныя для выканання функцыянальных абавязкаў, а таксама вывозіць указаныя тавары, інструменты і абсталяванне ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Адказнасць суб'ектаў гаспадарання**

Суб'екты гаспадарання абавязаны забяспечваць адпаведныя органы дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь і працоўных-мігрантаў, якія прымаюцца на работу па працоўнаму дагавору, аб'ектыўнай інфармацыяй аб характары работы, аплаце і ахове працы, умовах пражывання, сацыяльным і медыцынскім забеспячэнні, праездзе працоўных-мігрантаў і членаў іх сем'яў да месца аплатнай працоўнай дзейнасці і вяртанні ў дзяржаву выезду.

Суб'екты гаспадарання, што ажыццяўляюць дзейнасць, звязаную з працаўладкаваннем грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой, а таксама прыцягненнем замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь, якія ўвялі ў зман наймаючыхся работнікаў і прадставілі ў органы дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь ілжывыя звесткі аб характары працоўнай дзейнасці, пазбаўляюцца права на ажыццяўленне гэтай дзейнасці і прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21. Прадухіленне нелегальнай працоўнай міграцыі**

Органы дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь сумесна з іншымі органамі дзяржаўнага кіравання прымаюць меры для прадухілення і спынення нелегальнага міграцыйнага руху, незаконнага найму грамадзян Рэспублікі Беларусь для работы за мяжой і замежных грамадзян для работы ў Рэспубліцы Беларусь.

Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь, тэрытарыяльныя органы па міграцыі маюць права праверкі дзейнасці суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь, звязанай з працаўладкаваннем грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой і прыцягненнем у Рэспубліку Беларусь замежнай рабочай сілы.

Суб'екты гаспадарання, якія дапусцілі парушэнне ўстаноўленага парадку накіравання грамадзян Рэспублікі Беларусь для аплатнай працоўнай дзейнасці за мяжу і прыцягнення замежных грамадзян для аплатнай работы ў Рэспубліцы Беларусь, прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 22. Меры супраць інфармацыі, якая ўводзіць у зман**

Органы дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь забяспечваюць грамадзян Рэспублікі Беларусь дакладнай інфармацыяй у сферы знешняй працоўнай міграцыі і прымаюць меры, накіраваныя на прадухіленне распаўсюджання інфармацыі, якая ўводзіць у зман. Публікацыя інфармацыйных (рэкламных) аб'яў аб працаўладкаванні грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой без узгаднення з Камітэтам па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь забараняецца. Суб'екты гаспадарання і сродкі масавай інфармацыі за парушэнне парадку рэкламавання дзейнасці ў сферы знешняй працоўнай міграцыі, а таксама ў выпадку прызнання рэкламы неналежнай нясуць адказнасць, прадугледжаную заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Міжнароднае супрацоўніцтва па праблемах знешняй працоўнай міграцыі**

Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь у мэтах урэгулявання праблем, якія ўзнікаюць у працэсе знешняй працоўнай міграцыі, развівае супрацоўніцтва з іншымі дзяржавамі і адпаведнымі міжнароднымі арганізацыямі.

**Артыкул 24. Прымяненне міжнародных дагавораў**

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Законе, прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Артыкул 25. Заключныя палажэнні**

Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у шасцімесячны тэрмін:

распрацаваць і ўнесці ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

прывесці ў адпаведнасць з гэтым Законам рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Закону.

**Прэзідэнт**
**Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**

17 чэрвеня 1998 г., г. Мінск
№ 169-З

# ЗАКОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ РАТЫФІКАЦЫІ ДАГАВОРА СУСВЕТНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ ПА ВЫКАНАННЯХ І ФАНАГРАМАХ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 мая 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 мая 1998 года*

**Артыкул 1.** Ратыфікаваць Дагавор Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па выкананнях і фанаграмах.

**Артыкул 2.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1999 года падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з ратыфікацыяй Дагавора Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па выкананнях і фанаграмах.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

10 чэрвеня 1998 г., г. Мінск № 164-З.

## АБ РАТЫФІКАЦЫІ ДАГАВОРА СУСВЕТНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ ПА АЎТАРСКАМУ ПРАВУ

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 14 мая 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 мая 1998 года*

**Артыкул 1.** Ратыфікаваць Дагавор Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па аўтарскаму праву.

**Артыкул 2.** Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 студзеня 1999 года падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з ратыфікацыяй Дагавора Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па аўтарскаму праву.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

10 чэрвеня 1998 г., г. Мінск № 165-З.

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 24 (142)




## ПРАДАЕЦЦА

● Л/а «VW Джэта-1» 1980 г. в., 4-дзверны, 1,6 л — 1850 у. а., торг.
Тэл. у Капылі 5-01-07.

● Зруб 8х10, два паверхі, са столяркай, танна.
Тэл. у Стоўбцах 4-74-92

● Вясельны ўбор, сукенка атласная 48 памеру — 50 у.а.
Тэл. у Астравецкім раёне 2-47-74.

● Дом з пабудовамі, участак 20 сотак у в. Ціханы Ашмянскага раёна.
Тэл. 2-81-98.

● Тэрмінова дом з г/пабудовамі, участак 25 сотак у в. Гнесічы Навагрудскага раёна за 50 млн. руб. (можна часткамі).
Тэл. 7-14-83.

● Дача каля в. Сутокі Смалявіцкага раёна, зруб, танна. Побач дзве рэчкі, лес.
Тэл. (8-01775) 3-73-06, увечары.

● «ВАЗ-2103» 1974 г. в. у Пастаўскім раёне.
Тэл. 3-63-35.

● Дом у в. Шынкаўцы Шчучынскага раёна, участак 50 сотак, калодзеж, г/пабудовы, ручай.
Тэл. 3-87-12.

● Мотаблок 1993 г. в. у в. Аброва Івацэвіцкага раёна — 500 у.а.
Тэл. у Івацэвічах 2-20-39, пасля 18.

● Матацыкл «Іж-Планета-5» з каляскай, новы, 1991 г. в. — 700 у.а., або мяняю на новы зруб.
Тэл. у Мінску 259-96-02.

● «ВАЗ-2101», капрамонт 1998 г., 950 у.а.
Тэл. у Ляхавічах 5-41-06.

● Касілку трактарную навясную, брусавую, машыну «ЛуАЗ», матацыкл «ІЖ» з новым рухавіком, у Любанскім раёне.
Тэл. (8-294) 5-97-43.

● Катэдж 2-павярховы з г/пабудовамі, участак 15 сотак у в. Дзераўная Слонімскага раёна.
Тэл.: (8-297) 7-36-67, 3-22-72.

● Дом з г/пабудовамі, агарод, сад у в. Валынцы Верхнядзвінскага раёна.
Тэл. 2-32-69.

● прычэп «Зубраня», новы.
Тэл. у Мінску 277-04-04.

● «ЗІЛ-157» на хаду, з з/ч, рухавік, кабіна 700 у. а.; дом пад дачу, побач рака, «Яву-350» з каляскай.
Тэл. у Валожынскім раёне 4-45-29.

● Бочка для піва ў Міёрскім раёне.
Тэл. (8-252) 2-56-67.

● «ВАЗ-21063» 1989 г. в., бензін/газ, у добрым стане.
Тэл. у Браславе (8-253) 2-11-34.

● Каза дойная, 3 гады, цана дагаворная.
Тэл. у Мінску 242-51-29.

● «ЗАЗ-966В» 1972 г. в. з з/ч, 100 у. а.
Тэл. (8-01562) 9-13-87.

ІДЭІ І ЛЮДЗІ

# БЕЛАРУСКАЕ — ЗНАЧЫЦЬ ЯКАСНАЕ, НАДЗЕЙНАЕ, ЗРУЧНАЕ І БОЛЬШ ТАННАЕ

**По просьбе чытачоў «Звязды» прадстаўляем прадукцыю Мінскага прыборабудаўнічага завода («Белвар»)**

BELVAR
МИНСКИЙ ПРИБОРОСТРОИТЕЛЬНЫЙ ЗАВОД

— Наш завод — гэта вядучае прадпрыемства на тэрыторыі былога СССР па выпуску **радыёвымяральных прыбораў** (асцылографаў, вальтметраў, мультыметраў), — расказвае намеснік начальніка аддзела маркетынга Генадзь Кісялеўскі.— Больш чым паўстагоддзя мы вырабляем высакаякасныя прыборы — ад самых простых для радыёаматараў да высокадакладных з праграмным кіраваннем і ўбудаванымі мікрапрацэсарамі. Высокі ўзровень выпускаемых вырабаў забяспечваецца шырокай гамай тэхналогій і сучасным тэхналагічным абсталяваннем вядучых сусветных фірмаў. Яны экспартуюцца ў многія краіны свету, удастойваліся залатых медалёў на многіх міжнародных выстаўках. Гэтыя прыборы даюць жыццё заводу, а таксама дазваляюць знаходзіць новыя рынкі збыту. У пачатку 90-х гадоў, калі многія прадпрыемствы ВПК пачалі развальвацца, паўстала і ў нас пытанне аб прыпыненні выпуску радыёвымяральных прыбораў. Але мы не пайшлі па гэтаму шляху. Наадварот, мы мадэрнізавалі вытворчасць, удасканальвалі выпуск новых мадэляў, якія б адпавядалі сусветнаму ўзроўню. З пачатку канверсіі на прадпрыемстве змянілася два пакаленні радыёвымяральнай апаратуры. Цяпер мы лідэры ў краінах былога Саюза па выпуску гэтай прадукцыі: калі ў 90-м годзе мы выраблялі толькі 15 працэнтаў ад агульнага аб'ёму тавараў гэтага класа, то сёння — больш за 50. На заводзе распрацавана канцэпцыя развіцця радыёвымяральных прыбораў на перспектыву.

Улічваючы, што наш завод быў асноўным пастаўшчыком дазіметрычных прыбораў спецпрызначэння, пасля аварыі на ЧАЭС калектыву была даручана распрацоўка і выпуск падобных прыбораў для спецыялістаў і насельніцтва. Усяго за адзін год дазіметр РКСБ-104 быў распрацаваны і пачаўся яго масавы выпуск. Група спецыялістаў завода была за гэта ўдастоена Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Цяпер з'явіліся новыя мадыфікацыі таго першага дазіметра як для прафесійнага, так і для бытавога прызначэння. Прыбор дазваляе вымяраць узровень забруджанасці радыенуклідамі прадуктаў харчавання і глебы. Улічваючы, што ў нашых умовах рабіць гэта неабходна рэгулярна, гэты прыбор можна насіць у кішэні пастаянна. Зручныя яны будуць для грыбнікоў і ягаднікаў, дачнікаў і жыхароў сельскай мясцовасці, якім цяпер нялёгка дабірацца да абсталяваных пунктаў кантролю, асабліва з улікам таго, што менавіта лясныя грыбы і ягады даволі часта забруджаны радыенуклідамі.

— Высокатэхналагічнае абсталяванне эфектыўна выкарыстоўваецца для выпуску **сучаснай медыцынскай тэхнікі**: эхатамаскопаў, апаратаў ультрагукавой дыягностыкі і магнітнай тэрапіі. Увагу чытачоў «Звязды» мне хацелася б засяродзіць на прыборы, які вельмі неабходны для хворых на цукровы дыябет, — экспрэс-аналізатары ўтрымання глюкозы ў крыві.

Вядома, што чалавек з павышаным узроўнем цукру ў крыві можа адчуваць сябе здавальняюча, але нельга кіравацца толькі ўласнымі адчуваннямі, таму што рызыка сур'ёзных ускладненняў будзе тым вышэй, чым больш чалавек знаходзіцца па-за кантролем. Кантралюючы ўзровень цукру ў крыві, можна атрымліваць інфармацыю, неабходную для падтрымання яго ў калянармальных межах (5,5 мМоль/л). Для забеспячэння гэтага неабходна мець магчымасць правядзення экспрэс-аналізу крыві на глюкозу (цукар) у любых умовах і дастаткова часта з дапамогай індывідуальных экспрэс-аналізатараў.

Сёння на рынках краін СНД ёсць у асноўным толькі імпартныя прыборы і тэст-палоскі да іх. Яны даволі дарагія — ад 90 да 150 долараў ЗША, таму ў большасці выпадкаў недаступныя для масавага спажыўца.

Улічваючы, што ў Беларусі вялікая колькасць хворых на цукровы дыябет дарослых і дзяцей і іх колькасць павялічваецца з-за вынікаў чарнобыльскай аварыі, адкрытым акцыянерным таварыствам «Мінскі прыборабудаўнічы завод» і Мінскім навукова-даследчым інстытутам радыематэрыялаў распрацаваны і выпушчаны экспрэс-аналізатар утрымання глюкозы ў крыві. Ён складаецца з прыбора «глюкаметр» і тэст-палосак да яго «глюкасен». Прынцып работы прыбора заснаваны на вымярэнні велічыні току пры біяэлектрахімічнай рэакыі, якая працякае ў кроплі крыві пры нанясенні яе на тэст-палоску (датчык).

Правілы карыстання прыборам простыя. Вы праколваеце палец ланцэтам (так, як гэта робіцца ў паліклініках пры аналізе крыві). Затым наносіце кроплю крыві на тэст-палоску, папярэдне ўстаўленую ў прыбор, націскаеце кнопку — і ўжо праз 40 секунд даведваецеся аб узроўні ўтрымання глюкозы ў вашай крыві.

Гэты прыбор паспяхова прайшоў двухгадовую апрабацыю ў васьмі медыцынскіх установах і з'яўляецца адзіным беларускім прыборам, дазволеным для прымянення Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь. Прыбор сертыфікаваны Белстандартам. На міжнароднай выставе вынаходак і новых ідэй «Геніус-96», якая праходзіла ў Будапешце, удастоены дыплома і вялікага медаля выставы.

Забяспечыўшы такім чынам кантроль свайго стану і пракансультаваўшыся з лечачым урачом, вы вызначыце для сябе неабходную дыету, комплекс фізічных практыкаванняў і нагрузак, неабходны курс лячэння, што дапаможа вам дасягнуць нармальнага ўзроўню цукру ў крыві і значна знізіць ці ўвогуле выключыць рызыку сур'ёзных ускладненняў.

Трэба дадаць, што наш «глюкаметр» і тэст-палоскі да яго эканамічна значна больш выгадныя, чым замежныя. Па-першае, набыўшы замежны прыбор аналагічнага назначэння (нават атрымаўшы яго бясплатна), потым прыйдзецца выкладваць вялікія грошы за тэст-палоскі, якія ў некалькі разоў даражэй за айчынныя. Па-другое, тэрмін годнасці тэст-палосак невялікі, таму на працяглы тэрмін іх нельга назапасіць, а значыць прыйдзецца часта набываць. Зразумела, замежныя тэст-палоскі для нашых не вельмі забяспечаных і хворых на цукровы дыябет людзей з'яўляюца недасягальнымі.

**Набыць глюкаметр і тэст-палоскі да яго вытворчасці Мінскага прыборабудаўнічага завода можна ў аптэках рэспублікі ці ў фірменным магазіне прадпрыемства ТТД «Белвар» (г. Мінск, вул. Кульман, 14, тэл. 232-22-67).**

**Атрымаць кансультацыі па пытаннях выкарыстання і набыцця глюкаметраў і тэст-палосак можна ў Мінску ў ААТ «Мінскі прыборабудаўнічы завод» (прасп. Ф. Скарыны, 58, тэл. 239-97-30, 239-94-84, 239-94-85).**

### ЭКСПРЭС-АНАЛІЗАТАР утрымання глюкозы ў крыві глюкаметр ГМ-1

- **Вымярэнне ў хатніх умовах узроўню ўтрымання глюкозы ў крыві**
- **Час аналізу — 40 сек.**
- **Межы вымярэння ўзроўню глюкозы — 2—19,9 мМоль/л**
- **Пагрэшнасць вымярэння — 15 прац.**
- **Індыкацыя зніжэння напружання батарэй — да 7 В**
- **Уманціраваная сістэма кантролю каліброўкі**
- **Маса — 0,28 кг.**

● Рэдуктар да «МАЗ-5551» б/к, у выдатным стане.
Тэл. у Смалявіцкім раёне 4-13-47, пасля 20.

● Дом у Карэліцкім раёне з усімі выгодамі, тэлефон, гараж, участак 30 сотак.
Тэл. 94-82-37, Генадзій.

● Л/а «Вольва-340» 1986 г. в., дызель, у выдатным стане, у Вілейцы.
Тэл. (8-01771) 5-86-90.

● Драўляны дом з г/пабудовамі ў Лагойску.
Тэл. (8-274) 5-53-79.

● Кватэра 4-пакаёвая «сталінка», тэлефон, 2 балконы, падвал, паблізу метро «А/в «Усходні» (г. Мінск)
Тэл. 230-92-39.

● Дом з гас. пабудовамі, сад, участак 25 сотак, 17 км ад Бабруйска ў в. Пабокавічы.
Тэл. у Асіповіцкім раёне 3-45-54.

● Л/а «Ніва» 1987 г. в. у добрым стане, 2200 у.а.
Тэл. (8-01513) 2-35-98.

● Жылы дом у цэнтры саўгаса «Стайкі», г/пабудовы, участак 16 сотак, сад.
Тэл. у Мінску 256-69-63, 272-75-96, увечары.

● Кацёл КС-ТГ, вуллі, медагонку, аўтамашына «ЛуАЗ».
Тэл. 295-11-05.

● «ВАЗ-2103» 1974 г. в. у Пастаўскім раёне.
Тэл. 3-63-35.

● Усе запчасткі да «Масквіча-412».
Тэл. у Барысаве 4-13-54.





## *Асабістае жыццё*

**Аб. 736.** Удава, 52 гады. Усё жыццё працавала на зямлі, разводжу кветкі. Мне цяжка ўявіць жыццё на «этажах». Пазнаёмлюся са спагадлівым, працавітым, непітушчым мужчынам. Далейшае — пры перапісцы (Гомельская вобласць).

**Аб. 737.** Пазнаёмлюся з добрым, сімпатычным хлопцам. Аб сабе: 19 гадоў, жыву ў Гродзенскай вобласці.

**Аб. 738.** Мужчына, 47/175/78, без шкодных звычак, пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і, г. Ліда.

**Аб. 739.** Пазнаёмлюся з хлопцам ад 18 да 23 гадоў без шкодных звычак. Аб сабе: «Стралец», 16/150/44, Гродзенская вобласць.

**Аб. 740.** Дзмітрый, 25/176/80, пазнаёмлюся з дзяўчынай да 30 гадоў для перапіскі. Жыву ў сельскай мясцовасці, Мінская вобласць.

**Аб. 741.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай (жанчынай) да 36 гадоў, можна з дзіцем. Знешнасць, адукацыя, месца жыхарства вялікай ролі не маюць. Па магчымасці фота, якое вярну. Віцебская вобласць.

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

## ВЯЧЭРНІ КЛЁЎ



Фота Андрэя ШАЎЦОВА.

ПА МАТЭРЫЯЛАХ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# ЯК ЛЕВАЯ НАГА ЗАХОЧА

Менавіта так, напэўна, можна ахарактарызаваць работу кіраўнікоў Гомельскага абласнога аб'яднання «Зааветснаб» (дырэктар Б. Троска, галоўны бухгалтар Н. Лепянкова). Бо для іх, здаецца, нарматыўныя акты ці нейкія іншыя афіцыйныя дакументы былі нібы тыя палкі ў колах. Напрыклад, трэба было збыць па рэштакваму кошту легкавушку «Масквіч-412» і «ГАЗ-53А» — адпаведна пасля трох і шасці гадоў эксплуатацыі. Пакупнікі знайшліся ў адзін момант — свае родненькія — загадчык склада медыкаментаў А. Кузьмянкова і эканаміст Н. Саламаха. А як да родненькіх адносіцца трэба? Па-свойску, як да сябе. Дык навошта тады нейкая экспертыза тэхнічнага стану машын, нейкія правілы продажу? Вока — вось той выверашы «ватэрпас», які ўсё і вызначыць: за «Масквіча» — 17,8, а за «ГАЗ» — 6,9 мільёна рублёў. Усе задаволеныя, усе смяюцца, усе паціскаюць адзін аднаму рукі. А тое, што за першую машыну недаплачана 11,4, а за другую — 95,6 мільёна рублёў — дробязі: так хацела левая нага кіраўнікоў «Зааветснаба».

Па яе ж жаданню ў парушэнне заключанага кантракта і без прадстаўлення вышэйстаячых арганізацый у кастрычніку 1996-га і лютым 1997 года дырэктар Б. Троска атрымаў з фонду спажывання адзін мільён 500 тысяч рублёў матэрыяльнай дапамогі. Пачаліся работы па капітальнаму рамонту — прэч з дарогі розныя перашкоды. Прастору дадзім будаўнікам, размаху, хай твораць. Завышэнне аб'ёмаў выкананых работ атрымалася на 98,8 мільёна рублёў? Ну і што — падлішам, выплацім, не бедненькія ж. Трэба — паднацiснем на калгасы, саўгасы, іншыя прадпрыемствы і арганізацыі сістэмы Мінсельгасхарча, якія абслугоўваем. Скажам, ёсць пісьмо міністэрства, каб разлікі з імі рабіць па дагаворных цэнах, тарыфах, расцэнках, якія вызначаюцца з улікам эканамічна абгрунтаваных затрат і нарматыўнага прыбытку ў памерах, якія не перавышаюць дзесяці працэнтаў ад поўнага сабекошту. Глупства ўсё гэта, анахранізм. На двары вунь рынак, што хачу, тое і раблю. А калі пры рэалізацыі патрэбных гаспадаркам прэпаратаў і іншых таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў ды лупануць гранічны памер нацэнкі ў 25 працэнтаў — што будзем мець? Правільна, «казырную» рэнтабельнасць. У 1996 годзе яна аказалася ў 7,57, а летась — у 2,84 раза вышэй рэкамендаванай міністэрствам. Мы — жывём, астатнія як хочуць. А каму трэба — працягнем руку дапамогі. Асабліва калі гэта фірмачы ці бізнесмены.

Напрыклад, прапаноўваюць яны ветпрэпараты — чаму іх не ўзяць, чаму не купіць? Летась набылі іх у камерсантаў на 21038,2 мільёна рублёў, а ў сваёй сістэме — на 9333,6 мільёна. Ну і што з таго, што тыя ўзвінчвалі цэны на той ці іншы тавар у два — шаснаццаць разоў вышэй за цэны заводаў-вытворцаў? Усё роўна заплацім, бо тым жа таварыствам з абмежаванай адказнасцю ці кааператывам таксама жыць трэба. А што парушаецца пры гэтым пастанова аб дзяржаўным кантролі за захаваннем дысцыпліны цэн, дык нічога страшнага: і не гэта мы цярпелі ад розных там чыноўнікаў-бюракратаў.

Тым больш, што капейчына ёсць, банкаўскія крэдыты атрымліваем. Летась для разлікаў за ветэрынарныя тавары іх было зрасходавана 5,1 мільярда рублёў і ў поўным аб'ёме адпраўлена камерцыйным структурам. Кажаце, ёсць пры гэтым пастаянная запазычанасць перад прадпрыемствамі сваёй сістэмы і заводамі — вытворцамі ветпрэпаратаў? Ёсць, ёсць яна. Ды нічога страшнага: гэта ж свае, яны пачакаюць. Кажаце, за гэтыя і іншыя парушэнні давядзецца штрафам нас пакараць? Згодныя, рогам упірацца не будзем. Не са сваёй жа ўласнай кішэні разлічымся, а з касы аб'яднання. Яна ў нас не бедная.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

***АД РЭДАКЦЫІ. Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што Камітэт дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці, які правяраў дзейнасць кіраўнікоў абласнога аб'яднання «Зааветснаб», паставіў пытанне перад вышэйстаячымі органамі аб адпаведнасці іх займаемай пасадзе.***

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з днём нараджэння блізкага нам чалавека і сябра **Валерыя Вячаслававіча ХАРТАНОВІЧА**, які нарадзіўся ў в. Шастакі Капыльскага раёна і зараз жыве і дапамагае суседзям у цяжкую хвіліну. Жадаем яму вялікага шчасця, аптымізму, новых жыццёвых удач і надзеі на прыемную будучыню.*

**Сябры, суседзі,** в. Шастакі.

*Дарагую матулю і любую жонку **Яўгенію Іванаўну РЫЛЬ** віншуем з 45-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, дабра.*

**Муж, дзеці,** в. Каплічы Калінкавіцкага раёна.

*Сардэчна віншуем дарагую матулю **Лідзію Іванаўну ВАЎЧОК** з 55-годдзем. Няхай моцнае здароўе, шчасце, радасць і сямейны дабрабыт крочаць з вамі па жыцці.*

**Сям'я Марцінеўскіх.**

*Віншуем **Ірыну Іосіфаўну ЗАЛЕСКУЮ** з 40-годдзем. Жадаем здароўя, радасці, шчасця.*

**Сям'я Гульбіцкіх,** в. Ліпкі.

*Віншуем **Тамару Паўлаўну КАШУБА** з 30-годдзем.*

*«Желаем счастья, светлых дней,*
*Здоровья, что всего ценней,*
*Дороги жизни подлинней*
*И больше радости на ней».*

**Сястра Валянціна і яе сям'я.**

*Шчыра віншуем з 65-годдзем дарагога мужа **Барыса Рафаілавіча РЫНКЕВІЧА** з в. Вясея Слуцкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця.*

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Шчыра віншую аднакашнікаў, выпускнікоў 1948 г. з паўвекавым юбілеем — заканчэннем Нясвіжскага педагагічнага вучылішча.*

*Прыгадаем у гэты дзень, дарагія сябры, наша «манастырскае» юнацтва і ўспомнім добрым словам цудоўнага чалавека і педагога — дырэктара вучылішча А. П. Саўчанку і ўсіх нашых настаўнікаў.*

*Вышэй галаву, сябры! Будзем аптымістамі!*

**В. В. Рудакоўскі, дацэнт МДЛУ, выдатнік народнай асветы.**

# КРАСА І СІЛА



АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ



### Анатоль ВЯРЦІНСКІ

Анатоль Вярцінскі — адзін з анталагічных паэтаў на Беларусі. Нават з самых першых ягоных кніжак — «Песня пра хлеб» (1962), «Пры цішыні» (1966) — можна смела браць вершы, якія не сорамна змяшчаць у любыя хрэстаматыі. Дарэчы, Анатоль Ільіч і сам разам з Нілам Гілевічам дапамагаў балгарскім калегам укладаць анталогію беларускай паэзіі. А вось ужо трэці зборнік — «Чалавечы знак» (1968) стаў сапраўднай паэтычнай з'явай, і паэт ім сцвярджаў сябе аднойчы і назаўсёды. Шлях ад лірыка да філосафа ў паэзіі быў пройдзены за няпоўныя дзесяць гадоў. У артыкуле «Чалавечнасць» Анатоль Вярцінскі так і сказаў: «Трэба ісці не ад людзей, а да людзей», і малады яшчэ паэт здолеў чыстыя эмоцыі асэнсавана падмацаваць інтэлектам, жыццёвым і творчым досведам.

Верш «Паміраюць ад кулі шалёнай» упершыню напаткаў у апошнім выбраным Анатоля Вярцінскага, і хоць ніколі не запамінаю нават свае вершы, вярцінскаўскі засеў мне ў памяці адразу, быццам я сам напісаў яго.

*Паміраюць ад кулі шалёнай,*
*ад вады, ад бяды, ад жуды,*
*а яшчэ —*
*ад зялёнай-зялёнай,*
*ад зялёнай, як раска, нуды.*

*Паміраюць марудна-марудна,*
*паміраюць шмат дзён і начэй,*
*паміраюць марудна і трудна —*
*паміраць нечакана лягчэй.*

*І я лёс папрашу, калі ласка,*
*дай пражыць мне мае гады*
*без зялёнай-зялёнай, як раска,*
*без зялёнай смяротэльнай нуды!*

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

# ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!



ЗАТ «Праваслаўная ініцыятыва» з вялікай радасцю паведамляе Вам, што, па благаславенню мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, упершыню за апошнія 80 гадоў у нашай рэспубліцы выдадзена «кніга «Закон Божы» для сям'і і школы.

Мы ўдзячныя Адміністрацыі Прэзідэнта і Савету Міністраў Беларусі, выдавецтву «Беларускі Дом друку», шматлікім арганізацыям, прадпрыемствам, таварыствам, банкам, калгасам, рэдакцыям газет за актыўнае садзейнічанне выхаду гэтай кнігі ў свет.

Першыя экземпляры «Закона Божага» ўжо распаўсюджваюцца сярод нашага народа, які не проста чакаў гэтай падзеі, але дапамагаў яе хутчэйшаму ажыццяўленню сваімі ахвяраваннямі, часам вельмі сціплымі, але тым больш каштоўнымі ў нашых вачах.

Аднадумнасць і аднадушша — гэта самае галоўнае, што, па Закону Божаму, умацоўвае дамы і сем'і, царкоўныя абшчыны, брацтвы і сястрыцтвы, народы і дзяржавы. І мы шчаслівыя тым, што ў нашым грамадстве ёсць жывая, здаровая і разважная частка, якая не падкланілася пад ярмо бязбожжа і багаборніцтва, але верай і справамі любові працуе на славу Богу і садзейнічае сапраўднаму адраджэнню нашай богавыратавальнай Айчыны!

Дарагія суайчыннікі! Хто хоча ведаць праўду Божую і навучыцца жыць у міры і любові, — чытайце і вывучайце «Закон Божы». Гэта кніга дапаможа адрозніць, у чым для чалавека дабро, а ў чым зло; хто чалавеку і нашай Айчыне вораг, а хто сябар. І калі ў жыцці здараецца так, што побач у самую патрэбную хвіліну не акажацца верных сяброў, мудрых настаўнікаў і не застанецца часу для доўгага роздуму, як лепш зрабіць, тады вы не зробіце памылкі, успомніўшы аб Законе Божым і аб тым, чаму ён вучыць. А вучыць ён жыць сумленна, захоўваць сумленне ў чысціні і ачышчаць яго, калі саграшыў перад Богам і людзьмі.

* * *

«Праваслаўная ініцыятыва» працягвае збор подпісаў пад зваротам да Урада Рэспублікі Беларусь аб увядзенні вывучэння «Закона Божага» (па згодзе бацькоў) у навучальную праграму сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай школы. Ваша думка аб гэтым і подпісы ў падтрымку прысылайце на адрас: **220071, Беларусь, г. Мінск, вул. Берасцянская, 17, магазін «Праваслаўная кніга».**

У гэтым магазіне вы зможаце набыць «Закон Божы», розную праваслаўную літаратуру, царкоўныя прылады, календары, паштоўкі, абразы, крыжыкі, свечкі, аўдыё-, відэакасеты з запісамі на праваслаўна-рэлігійную тэматыку, паглядзець выстаўкі абразоў і карцін беларускіх іканапісцаў і мастакоў.

**Час работы — з 10 да 13 і з 14 да 19 гадзін.**

**Выхадны — нядзеля.**

**Тэл./факс 236-04-94.**



Згубленае пасведчанне інваліда II групы серыі С-III № 062152, выдадзенае на імя Уладзіміра Нікіфаравіча КОМЛІКА, лічыць несапраўдным.

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 23**

**А. Бадзюкоў** *(Круглянскі раён)*



**Белыя**: Крb4, Фа4, Cf4, Кf1 (4). **Чорныя**: Kpd4, пп: е5, h2 (3).

**Мат за 3 хады.**

**Заданне № 24**

**С. Румянцаў** *(Омск)*



**Белыя**: Крс1, Ла6, Кg2, п. g5 (4). **Чорныя**: Kpg4, Ле8 (2).

**Выйгрыш.**

**ЭЛЕГАНТНЫЯ ТВОРЫ**

Пазнаёмцеся з партыяй экс-чэмпіёна свету Роберта Фішэра, якая была згуляна ім з Р. Бірнам на першынстве ЗША ў 1964 годзе. Цікава адзначыць, што Фішэр навучыўся гуляць у шахматы, калі яму было 6 гадоў, а ўжо 12-гадовым хлопчыкам пачаў гуляць у розных турнірах — дарослых і юнацкіх. У 14 гадоў — ён ужо міжнародны майстар, чэмпіён ЗША сярод дарослых. А праз год — міжнародны гросмайстар, самы малады гросмайстар у гісторыі шахмат. Пачынаючы з 1960 года, ён з 25 згуляных турніраў у 20 атрымаў першыя прызы. Выдатна пераадолеў адборачныя бар'еры розыгрышу першынства свету, Роберт Фішэр у 1972 годзе сустрэўся ў матчы з чэмпіёнам свету Барысам Спаскім і перамог яго з лікам +7 — 3 = 11.

На гэтым, можна сказаць, яго шахматная кар'ера і закончылася.

**Р. Бірн — Р. Фішэр**

*Абарона Грунфельда*

1. d4 Kf6 2. c4 g6 3. g3 c6 4. Cg2 d5 5. cd cd 6. Kc3 Cg7 7. e3 0—0 8. Ke2 Kc6 9. 0—0 b6 10. b3 Ca6 11. Ca3 Ле8 12. Фd2 e5! 13. de K:e5 14. Лfd1? Kd3 15. Фc2 K:f2! 16. Kp:f2 Kg4+ 17. Kpg1 K:e3 18. Фd2 K:g2! 19. Kp:g2 d4! 20. K:d4 Cb7+ 21. Kpf1 Фd7! і белыя здаліся.

Прыводзім таксама партыю, згуляную ў 1970 г. на сусветнай шахматнай алімпіядзе з Б. Спаскім, таксама абарона Грунфельда і чорнымі гуляў Р. Фішэр, але (рэдкая з'ява) прайграў.

**Б. Спаскі — Р. Фішэр**

*Абарона Грунфельда*

1. d4 Kf6 2. c4 g6 3. Kc3 d5 4. cd K:d5 5. e4 K:c3 6. bc Cg7 7. Cc4 c5 8. Ke2 Kc6 9. Ce4 0—0 10. 0—0 Фc7 11. Лc1 Лd8 12. h3 b6 13. f4 e6 14. Фe1 Ka5 15. Cd3 f5 16. g4!? fe 17. C:e4 Cb7 18. Kg3 Kc4 19. C:b7 Ф:b7 20. Cf2 Фc6 21. Фe2 cd 22. cd b5 23. Ke4 C:d4!? 24. Kg5 C:f2+? 25. Л:f2 Лd6 26. Ле1 Фb6 27. Ke4 Лd4 28. Kf6+ Kph8 29. Ф:e6 Лd6 30. Фe4 Лf8 31. g5 Лd2 32. Лf1 Фc7 33. Л:d2 K:d2 34. Фd4 Лd8 35. Kd5+ Kpd8 36. Лf2 Kc4 37. Ле2 Лd6 38. Ле8+ Kpf7 39. Лf8+! і чорныя здаліся.

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3745.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12